РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 58 (7871) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 29 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.

## УБОРКА ЗБАЖЫНЫ – У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ КІРАЎНІЦТВА ДЗЯРЖАВЫ

27 ліпеня адбылася традыцыйная рэспубліканская селектарная нарада. Адкрываючы яе, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падкрэсліў, што хлеб – самая вялікая палітыка, а вялікая палітыка без вялікага хлеба не бывае. Добры ўраджай вырашчан паўсюдна ў нашай краіне і ён павінен быць, нягледзячы на ўсе складанасці, сабраны без страт.

Прэзідэнт краіны падкрэсліў, што ў выніку прынятых мер, вялікі ўраджай чакаецца не толькі ў Гродзенскай і Мінскай абласцях, а і Віцебскай і Магілёўскай. У Гродзенскім раёне, які з'яўляецца маяком не толькі ў вобласці, з гектара збіраюць у сярэднім па 45 цэнтнераў збожжа, а ў такіх калгасах як "Кастрычнік", "Свіслач" – па 60 цэнтнераў. Нават у калгасе "Дуброва" Аршанскага раёна, дзе землі маюць нізкі бал урадлівасці, намалочваюць у сярэднім па 37 цэнтнераў з гектара. Чакаецца ўдвая вышэйшы збор ільновалакна.

А. Р. Лукашэнка зазначыў, што на палях рэспублікі вырашчан ураджай, па ацэнках спецыялістаў, не менш чым 6 мільёнаў тон. Збяром яго без страт – вырашым праблему малака, мяса, хлеба. Гэта і будзе вялікая перамога ўсіх удзельнікаў важнейшай сельскагаспадарчай кампаніі. Але ўраджай трэба яшчэ ўзяць, а нявырашаных праблем і ўласных недапрацовак і ўпушчэнняў на месцах яшчэ многа. Вось чаму цяперашняя ўборка павінна насіць усенародны характар. Трэба дапамагчы вяскоўцам ва ўборцы прысядзібных участкаў. Яны па рэспубліцы займаюць 250 тысяч гектараў, а гэта – 500 тысяч тон зерня.

А. Р. Лукашэнка прад'явіў прэтэнзіі да тых кіраўнікоў, дзе дапушчана затрымка зарплаты больш двух месяцаў. Да 10 верасня не павінна быць запазычанасці па зарплаце на вёсцы. За жнівень можна разлічыцца па зарплаце і прадукцыяй, але сяльчаніну і грошы патрэбны. Тым больш, трэба адправіць у школу дзяцей.

На рэспубліканскай селектарнай нарадзе трымалі справаздачу аб ходзе падрыхтоўкі і правядзення жніва кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў краіны, старшыні абласных выканаўчых камітэтаў.

НАСУСТРАЧ ВЫБАРАМ

## ПЕРШЫ ЭТАП

У адпаведнасці з артыкулам 35 Выбарчага кодэкса і каляндарным планам асноўных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, пачалося вылучэнне прадстаўнікоў у акруговую выбарчую камісію.

Па Касцюковіцкай выбарчай акрузе у склад акруговай выбарчай камісіі ад калектыву работнікаў раённага вузла электрычнай сувязі вылучан яго кіраўнік – Мікалай Васільевіч Василенка. Працоўны калектыў раённага выканаўчага камітэта назваў сваім прадстаўніком Васіля Рыгоравіча Мар'ева – намесніка старшыні райвыканкама па пытаннях інфармавання насельніцтва і сувязей з грамадскасцю. Ад калектыву ААТ "Касцюковіцкая ПМК-90" вылучан дырэктар гэтага прадпрыемства Анатоль Сямёнавіч Кузняцоў. Калектыў дзіцячага сада-ясляў № 8 "Ручаёк" вылучыў загадчыцу сада Дзіну Міхайлаўну Шаўчукоўскую. Ад групы выбаршчыкаў шляхам збору подпісаў паступіў пратакол, у якім названа Наталля Захараўна Кірпічэнка – галоўны спецыяліст раённага Савета дэпутатаў.

Вылучэнне прадстаўнікоў у акруговую выбарчую камісію працягваецца.

**Ул. інф.**

## ХЛЕБ -- УСЯМУ ГАЛАВА

### СЯМ'Я КАМБАЙНЕРАЎ

*Адным з першых у раёне пачынае ўборку збожжавых калгас "Прагрэс". Тут, дарэчы, і самыя вялікія плошчы зернявых і зернебабовых – 1655 гектараў. Надвор'е і ў сёлетнім годзе не песціць хлебаробаў. Штодзень не проста ідуць, а ў поўным сэнсе слова л'юць дажджы. Толькі зрэдку выгляне сонейка, дасць магчымасць абветрыцца ніве – камбайны ўжо ў рабоце. Зерне, хаця і мае павышаную вільготнасць, але чакаць не прыходзіцца. Хіляцца да зямлі каласы, якія і прыстасаваннем не ўзнімеш. Значыць, кожнаму з камбайнераў трэба паказаць сваё майстэрства, выкласціся спаўна.*

*Апрабаванне сваіх машын, непасрэдна ў рабоце, камбайнеры правялі на Бароўскім полі. За лічаныя гадзіны намалочана 30 тон зерня.*

*-- Хаця б надвор'е ўсталявалася, — хвалюецца за ўраджай галоўны інжынер калгаса Генадзь Боханаў. – Нагрузка на камбайн складае 180 гектараў. Справіцца з такім аб'ёмам у сціслы тэрмін будзе няпроста. Адна надзея на механізатараў, іншых удзельнікаў жніва.*

*Працаваць у "Прагрэсе" ўмеюць. Возьмем, да прыкладу, сям'ю Дзюндзіных. Сяргей Васільевіч працуе механізатарам, яго жонка Надзея Пятроўна – даяркай. Зараз, калі наступіла гарачая пара, старэйшы Дзюндзін і яго сыны працуюць на камбайнах. Уладзімір -- памочнікам у бацькі, а Сяргей -- разам з Аляксандрам Давыдзенкам. У мінулым годзе экіпаж Дзюндзіных заняў другое месца ў спаборніцтве сярод камбайнераў калгаса.*



***На здымку: С. В. ДЗЮНДЗІН з сынамі.***
***Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

## З НОВАГА ЎРАДЖАЮ

Калгас "Ленінскі шлях" прыступіў да продажу збожжа дзяржаве. На адкрытае акцыянернае таварыства "Касцюковіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства" адпраўлены з гэтай гаспадаркі першыя 30 тон жыта. Варта заўважыць, што на ААТ падрыхтаваліся да прыёмкі збожжа новага ўраджаю. Шкада толькі, што яно вельмі высокай вільготнасці – да 27 працэнтаў. Дажджы зрабілі сваю справу.

Усё магчымае робяць зараз на хлебапрадпрыемстве, каб давесці зерне да належнай кандыцыі. І, вядома ж, чакаюць машын з новым ураджаем з іншых гаспадарак раёна.

**Ул. інф.**

## ЗВЕСТКІ

***аб ходзе ўборкі збожжавых у гаспадарках раёна па стану на 27 ліпеня г.г.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – убрана ўсяго ў працэнтах да плана, трэцяя – ураджайнасць (цнт.)*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| "Лен. шлях" | 5,6 | 17,9 | "Бароньki" | 0,7 | 15,0 |
| "Новы быт" | 3,8 | 16,8 | "Дуброва" | 0,6 | 15,0 |
| "Расія" | 3,3 | 22,3 | "Праўда" | 0,5 | 18,0 |
| "Радзіма" | 1,8 | 20,1 | "Пар. камуна" | 0,5 | 22,1 |
| "Прагрэс" | 1,4 | 14,8 | імя Калініна | 0,2 | 15,0 |
| "Забычанне" | 0,9 | 17,8 | імя К. Маркса | 0,2 | 17,5 |
| "Кранштат" | 0,8 | 16,4 | "Смолькі" | 0,2 | 12,0 |
| "Новае жыццё" | 0,7 | 21,3 | **ПА РАЁНУ:** | **0,1** | **18,1** |

У РАЙВЫКАНКАМЕ

## РАЗГЛЕДЖАНЫ ВЫНІКІ РАБОТЫ

Асноўным пытаннем на чарговым пасяджэнні райвыканкама было падвядзенне вынікаў работы народнай гаспадаркі за 1-е паўгоддзе. Вёў пасяджэнне старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў.

Разгледзеўшы вынікі работы народнагаспадарчага комплексу, з дакладам па якіх выступіла намеснік старшыні райвыканкама па эканоміцы Валянціна Кавунова, адзначана, што склаўшаяся ў раёне сітуацыя па забеспячэнню рада важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, патрабуе прыняцця дадатковых мер, гарантуючых іх выкананне.

Забяспечана выкананне прагнозных паказчыкаў па тэмпах росту прамысловай вытворчасці (102,3 працэнта пры прагнозе 102), платных паслугах (109,1 працэнта пры прагнозе 100,6).

Разам з тым, не забяспечаны прагнозныя паказчыкі па вытворчасці спажывецкіх тавараў і рознічнаму тавараабароту і дапушчана зніжэнне па параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года адпаведна на 7,1 і 5,0 працэнтных пункты. У найбольш складаным становішчы апынуўся аграпрамысловы комплекс, які дапусціў зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці валавой прадукцыі на 21,5 працэнта.

Працягвае заставацца не стабільнай сітуацыя ў эканоміцы раёна.

Пагоршылася фінансавае становішча большасці прадпрыемстваў і арганізацый, захоўваецца напружанасць у выплаце заработнай платы, асабліва ў аграпрамысловым комплексе.

Вострай застаецца праблема разлікаў суб'ектаў гаспадарання з бюджэтам і за спажытыя энергарэсурсы.

Райвыканкамам, суб'ектамі гаспадарання раёна прымаліся меры для нармалізацыі становішча ва ўсіх сектарах эканомікі, на спажывецкім рынку, аднак для стабілізацыі сітуацыі неабходна здзейсніць цэлы комплекс мер, накіраваных на падтрыманне росту рэальнага сектара эканомікі і забеспячэнне сацыяльнай абароны насельніцтва.

У прынятым рашэнні раённага выканаўчага камітэта адзначана, што выкананне прагнозных паказчыкаў па павелічэнню аб'ёмаў выпуску прамысловай прадукцыі і платных паслуг насельніцтву забяспечана ўстойлівай работай ААТ "Касцюковіцкі лесправгас", хлебазавода, камбіната бытавога абслугоўвання, раённага вузла электрычнай сувязі, сельскага жыллёва-камунальнага камбіната. Станоўча працавалі ААТ "Касцюковіцкае райагратэхзабеспячэнне" па пастаўцы калгасам раёна запасных частак на веснавыя палявыя работы і корманарыхтоўку, гандлёвыя прадпрыемствы "Цэментгандаль" па развіццю рознічнага таывараабароту, ГДБУ і ПМК-260, якія не дапусцілі зніжэння аб'ёмаў будаўнічых работ, выкананых уласнымі сіламі, па параўнанню з 1-м паўгоддзем 1999 года.

Разам з тым, адзначана нездавальняючая работа па вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі кіраўнікоў калгасаў "Ленінскі шлях", імя Карла Маркса, "Смолькі", "Новае жыццё", па аднаўленню пагалоўя свіней — кіраўнікоў калгасаў "Прагрэс" і "Дуброва".

Звернута ўвага дырэктара ААТ "Касцюковіцкі малаказавод" А. Раўнягіна на непрыняцце належных мер па забеспячэнню выканання прагнозных паказчыкаў па выпуску прамысловай прадукцыі і спажывецкіх тавараў. Ён абавязаны прыняць вычарпальныя меры па выхаду на прагнозныя паказчыкі ў 2-м паўгоддзі 2000 года.

За невыкананне прагнозных паказчыкаў развіцця рознічнага тавараабароту, няпоўнае асваенне квацірoуемых тавараў прапанавана старшыні праўлення аблспажыўсаюза Г. Скрыбу прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасці старшыню праўлення райпа В. Марозава.

Лічыць недастатковымі меры, прымаемыя кіраўнікамі аўтапарка № 8 В. Струкавым, раёна газазабеспячэння А. Ермаковым, УКП "Водаканал" П. Барыкіным па павелічэнню аб'ёмаў платных паслуг, ААТ "Аўтамотасервіс і гандаль" А. Ляонавым — па вытворчасці прамысловай прадукцыі, кіраўнікамі будаўнічых арганізацый трэста № 10 "Цэментабуд", ПМК-90, ДБУ-37, ДРБУ-130 — па павелічэнню аб'ёмаў будаўнічых работ.

Адзначана, што дырэктарам хлебазавода Л. Смолінай праяўлена невыканаўчасць у арганізацыі гандлю каўбаснымі вырабамі мясцовай вытворчасці ў падведамасных прадпрыемствах гандлю.

Упраўленню сельскай гаспадаркі і харчавання, кіраўнікам калгасаў неабходна прыняць меры па паспяховаму правядзенню ўборкі ўраджаю і пагашэнню запазычанасці па заработнай плаце за сакавік-май да 1 верасня 2000 года.

Фінансаваму аддзелу райвыканкама не дапускаць запазычанасці бюджэта прадпрыемствам гандлю за аказаныя паслугі школам, бальніцам і іншым бюджэтным установам, своечасова разлічвацца за спажытыя энергарэсурсы бюджэтнымі арганізацыямі.

Намеснікам старшыні, кіраўнікам упраўленняў, аддзелаў райвыканкама, суб'ектам гаспадарання раёна штомесяц разглядаць становішча спраў на падведамасных прадпрыемствах, аператыўна прымаць меры па стабілізацыі становішча і выхаду на прагнозныя паказчыкі.

На пасяджэнні райвыканкама разгледжаны іншыя жыццёва важныя пытанні.

ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ГАНДЛЮ

# НА РАДАСЦЬ ПАКУПНІКАМ

Напярэдадні прафесійнага свята – Дня работнікаў гандлю – карэспандэнт газеты сустрэлася з дырэктарам гандлёвага прадпрыемства "Цэментгандаль" **Р. М. САЎЧАНКА**. Прадпрыемства, якое яна ўзначальвае, было створана ў пачатку 90-х гадоў. Яно абслугоўвала будаўнікоў. Гэта, бадай, і стала базай для новага прадпрыемства "Цэментгандаль" у 1996 годзе.

**— Раіса Міхайлаўна, напачатку планавалася, што будзе сетка гандлёвых магазінаў для работнікаў БЦЗ. А як абстаяць справы зараз?**

—Сапраўды, гэта так. Аднак наша прадпрыемства, акрамя аб'яднання грамадскага харчавання, мае сетку харчовых і прамысловых магазінаў, кафэ. Таму нашы магчымасці значна шырэй і набыць тавары ў магазінах "Цэментгандлю" можа кожны жадаючы. Да ўсяго, у нас нізкі ўзровень гандлёвых нацэнак, што нямалаважна ў гэты складаны час.

**— Таму, напэўна, і попыт на тавары вялікі?**

— Аб тым, што тавары ў магазінах не залежваюцца, скажуць, напэўна, лічбы. Тавараабарот паўгоддзя бягучага года мы выканалі на 119, 6 працэнта. У тым ліку ў гандлёвых кропках на 112,6 працэнта, у аб'яднанні грамадскага харчавання – на 167,6 працэнта.

**— Дзякуючы чаму дасягнуты высокія працоўныя паказчыкі?**

— У першую чаргу таму, што ў нас добрая насычанасць гандлёвай сеткі таварамі. Адпаведна асартыментнага мінімуму ёсць усе тавары, акрамя цукру. І то гэта толькі па той прычыне, што неабходны паўгадавы фонд яго мы даўно завезлі і прадалі. А калі тавары завозяцца часта, яны добрай якасці, то і карыстаюцца попытам.

**— Неабходныя прадукты і прамысловыя тавары ў гандлёвую сетку "Цэментгандаль" паступаюць цэнтралізавана?**

— Ды, не. Мы напрамую працуем толькі з дзяржаўнымі прадпрыемствамі-пастаўшчыкамі. У прыватнасці, каўбасныя вырабы атрымліваем з Крычаўскага мясакамбіната, гарэлачныя – з Клімавіцкага ЛГЗ, салодкасці – з Гомельскай кандытарскай фабрыкі і інш.

**— А з пастаўшчыкамі вы працуеце па перадаплаце? Грошы ў вас ёсць?**

— З пастаўшчыкамі ў нас даверныя адносіны. Таму тавары атрымліваем не заўсёды па перадаплаце. Разлікі вядзём за папярэдне атрыманыя тавары.

**— Вядома, што за паспяховым выкананнем планавых лічбаў стаяць у першую чаргу людзі...**

— Адразу зазначу, што з такім зладжаным калектывам, які склаўся ў нашым прадпрыемстве, можна працаваць усюды і пры любых умовах. Калектывы магазінаў узначальваюць вопытныя, уважлівыя, проста добрыя, мілыя жанчыны. Гэта В. І. Макавеева, Л. І. Лістрацэнка, С. А. Круценя, старшы повар кафэ "Чайка" Н. І. Галаганава, старшы повар сталовай БЦЗ Л. Д. Кузьмянкова, повар СШ №4 В. А. Крысанава. Шмат іншых старанных працаўніц. Напярэдадні свята хочацца сказаць вялікі дзякуй усім за працу, пажадаць поспехаў, шчасця, дабрабыту.

Гутарыла Наталля ГАЎРЫЛАВА.

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Пасляшайцеся за новым пашпартам

***Працягваецца пашпартызацыя насельніцтва ў нашай рэспубліцы. У мінулым годзе ў раёне актыўна вялася гэта работа. Аднак той, хто летась атрымліваў пашпарт, памятае, з якімі цяжкасцямі давялося сфатаграфавацца, якую чаргу выстаяць у аддзеле пашпартна-візавай службы, каб здаць дакументы. Сёлета ж "паастылі" ўладальнікі пашпартоў старога ўзору. З чым гэта звязана?***

***Гэта пытанне, як і іншыя, былі адрасаваны інспектару аддзела пашпартна-візавай службы РАУС Сяргею Васільевічу МАРГЕЛАВУ.***

— Сапраўды, абстаноўка ў нашым раёне з пашпартызацыяй вельмі складаная. Слабая самасвядомасць насельніцтва, наша элементарная палітычная неадукаванасць прывялі да таго, што на пашпартызацыю многія, як кажуць, махнулі рукой. Састарэлыя спасылаюцца на свой узрост, маўляў, на той свет з любым пашпартам прымаюць. Вядома, прымуць, толькі ж да гэтага трэба звярнуцца да натарыуса, каб зрабіць завяшчанне. І вось тут бабулі напамінаюць, што пашпарт у іх несапраўдны. Тады пачынаецца... нібы вінаваты ўсе, толькі не сам уладальнік дакумента.

Людзі ж, якія яшчэ працуюць, спасылаюцца на сваю занятасць, не могуць выбраць часу замяніць пашпарт, ды называюць шмат іншых прычын. У тым ліку і тую, што няма грошай на фотакарткі і г.д.

**— А ўвогуле, колькі ж каштуе пашпарт новага ўзору?**

— Наш пашпарт разам з фотаздымкам каштуе, заўважу, пакуль, усяго 1,5 долара, хаця на той жа Украіне за яго людзі аддаюць 50-60 долараў. Ды і часу для здачы дакументаў спатрэбіцца не так шмат, бо зараз няма чаргі.

**— Скажыце, калі ласка, Сяргей Васільевіч, якая ж колькасць насельніцтва ў нашым раёне атрымала новы пашпарт?**

— Пашпартызацыя ў рэспубліцы працягваецца пяты год. У вобласці новыя пашпарты атрымалі толькі 43 працэнты насельніцтва. Лічба па нашаму раёну значна ніжэйшая і складае ўсяго 39 працэнтаў. Варта заўважыць, што значная частка з іх – дзеці, якія выязджалі на аздараўленне за мяжу. Наша вобласць знаходзіцца на перадапошнім месцы ў рэспубліцы па колькасці выдадзеных пашпартоў.

**— Усіх цікавіць, колькі ж будзе працягвацца пашпартызацыя?**

— У заканадаўстве Рэспублікі Беларусь тэрмін заканчэння пашпартызацыі не ўстаноўлены. Аднак, у адпаведнасці з нарматыўнымі дакументамі, пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь павінен мець кожны, каму споўнілася 16 гадоў. І тут хочацца папярэдзіць усіх уладальнікаў "чырвоных" пашпартоў, што з цягам часу на вашым шляху будзе ўсё больш узнікаць непрадбачаных сітуацый, у прыватнасці, вас ужо не выпішуць і не прапішуць, калі вы маеце пашпарт старога ўзору і інш.

**— Вядома, што пашпарт з'яўляецца галоўным дакументам, пасведчаннем асобы. Як жа надалей будуць складвацца абставіны з тымі, хто жыве па несапраўднаму пашпарту?**

— Пры праверцы пашпартнага рэжыму, уладальнікі несапраўднага пашпарту нясуць адміністрацыйнае пакаранне. Вось тады ўсе адначасова абураюцца, калі трэба плаціць штраф. А чаго абурацца? Пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь – дакумент, які пацвярджае вашу асобу і ваша грамадзянства, з'яўляецца гарантам вашых правоў, свабод і пераваг. І атрымаць яго трэба як мага хутчэй, каб потым, калі спатрэбіцца новы пашпарт, вам не давялося зрывацца з работы, стварадь ажыятаж, слёзна прасіць і грозна сварыцца. А гэта лішняя нервовая нагрузка, ад якой лягчэй нікому не стане.

Таму мне хочацца звярнуцца да ўсіх, хто яшчэ не атрымаў пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, тэрмінова займіцеся гэтай справай, каб потым не плаціць штраф за парушэнне пашпартнага рэжыму.

**— Дзякуй за размову.**

Інтэрв'ю правяла Наталля КАВАЛЁВА.

# СВАРКА Ў ВАЛАСЬКОЎНІ

Гэты канфлікт наспяваў паступова. Прычыны яго станўць зразумелымі, калі заглянуць у не вельмі далёкую мінуўшчыну...

Некалі трывалая шматгаліновая гаспадарка – калгас імя Леніна – з развітай малочнай жывёлагадоўляй, ільнаводствам пакрысе страчвала свае пазіцыі. У краіне насоўваўся эканамічны і палітычны крызіс. Каб не дапусціць банкруцтва аслабелага калгаса, кіраўніцтва раёна з'арыентавала праўленне на рашучы крок. Прапанова доўга абмяркоўвалася тутэйшымі людзьмі і была прынята, праўда, не з першага разу, на агульным сходзе. Так калгас імя Леніна аб'яднаўся (а не далучыўся) з суседняй гаспадаркай "Ленінскі шлях".

Аб тым, што з гэтага атрымалася, можна расказваць доўга. Зараз Валаськоўня – далёкая ўскраіна гаспадаркі з усімі вынікаючымі адсюль вынікамі, юрыдычна – вытворчы ўчастак. Высокімі надоямі, ураджаямі культур ён не вызначаецца. Ёсць адна малочная ферма і невялікая свінагадоўчая. Навокал вёсак – бедныя, дробнаконтурныя нізінныя палі.

Час унёс, між іншым, непрыемныя змены ў жыццё ўзбуйненай гаспадаркі ўвогуле. Яна страціла значную колькасць рабочых рук, прычым, дужых, працавітых. Калгаснікі перабеглі на цэментны завод, які ўзвышаецца побач. Спецыялізаваны на адкорме буйной рагатай жывёлы калгас, стаўка на які рабілася пры аб'яднанні, сёння далёка не той, які быў некалькі гадоў таму назад.

Дайшло да таго, што ён аказаўся не ў стане апрацоўваць замацаваную за ім плошчу ворнай зямлі. Яна стала нібы лішняй.

Пацвярджэннем таму з'яўляецца мізэрная ўраджайнасць збожжавых культур шэрагу апошніх гадоў. З-за гэтага нават звычайна рэнтабельная і прыбытковая прадукцыя – збожжа – тут стала стратнай.

У гэтай сітуацыі мела сэнс крыху скараціць пасяўную плошчу, і аддаць частку зямлі таму, хто ў ёй мае вострую патрэбу. А дэфіцыт сельгасугоддзяў адчуў адразу ж перасяленцы з Вётухны ў Муравілле калгас "Краншатт". З дазволу мясцовай улады ён атрымаў "кавалак" плошчай некалькі дзесяткаў гектараў у сваё распараджэнне.

Як на няшчасце, адрэзалі яго ад Валаськаўнянскага вытворчага ўчастка. З гэтага ўсё і пачалося. "Лішняй" была зямля ў калгасе "Ленінскі шлях", але ніяк не ў Валаськоўні. Па словах вяскоўцаў, якія пачалі актыўна "бамбардзіраваць" вышэйстаячыя інстанцыі, ім недзе стала пасвіць уласную жывёлу, нарыхтаваць сена для яе на зіму. А паколькі сівая завіруха, мабыць, чакаюць нас уперадзе, у людзей нарастала злосць, бо стварылася пагроза існаванню падворкаў.

"Масла ў агонь" падліў прыезд у вёску супрацоўнікаў аддзела ўнутраных спраў па сігналу праўлення калгаса "Краншатт" аб крадзяжы рулоннаў сена, нарыхтаванага на былых угоддзях "Ленінскага шляху".

## (ПА СЛЯДАХ КАЛЕКТЫЎНАЙ СКАРГІ)

Той-сёй вымушаны быў даваць тлумачэнні праваахоўным органам, выклікаўся ў Касцюковічы. Звычайны разбор сялянамі быў успрыняты як знявага чалавечай годнасці.

Потым, калі вяскоўцы збяруцца з нагоды канфлікту, адна з жанчын што было моцы крыкне: "Усе мы там кралі корм летась і сёлета, бо выйсця іншага няма. Навошта нам такая ганьба? Мы хочам касіць траву, назапашваць сена, як сумленныя людзі, на законнай падставе. А мужчыны зараз стаяць перад дзвярыма міліцыі, як сапраўдныя злачынцы".

Словам, параўнальна невялікая па плошчы сенажаць стала яблыкам разладу паміж суседнімі калектывамі гаспадарак. Ніводнай з іх яна не прыносіла належнай карысці.

І вось у Валаськоўню на сустрэчу з яе жыхарамі прыехаў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталь Грышанаў. У зале былі ўжо і чакалі яго людзі пераважна пажылога ўзросту. Сюды прыбылі зараней старшыня калгаса Мікалай Таўпека, загадчык аддзела зямельных рэсурсаў і землеўпарадкавання Ігар Куцаеў, старшыня Пралетарскага сельскага Савета Уладзімір Лістападаў.

Напачатку размова на сходзе пачалася быццам з другараднага пытання. Кіраўнік гаспадаркі заўважыў, што некаторыя ўладальнікі кароў мала прадаюць малака, або зусім ніколькі. Пачуліся слушныя апраўданні: у кагосьці карова – ялаўка, хтосьці зусім збыў жывёлу.

А потым, калі старшынствуючы на сходзе запытаўся, чаму ўсе сабраліся, адказ быў лаканічны: "Няма сена!" Маўляў, калгас "Краншатт" скасіў поле шматгадовых траў, а "Ленінскі шлях" вымушаны быў ехаць нарыхтоўваць сена і сянаж за шмат кіламетраў, у былы саўгас "Брацкі". Да таго ж статак жывёлы з вёскі Пушкова пасецца на валаськаўнянскіх землях...

Далей – больш. Размова імгненна перарасла ў сапраўдную сварку. Колкія рэплікі пасылаліся ў адрас прэзідыума сходу. Спрачаліся ў зале паміж сабой, вельмі эмацыянальна, мужчыны і жанчыны.

Казалі, што тутэйшыя землі ачышчалі ад хмызнякоў, пустазелля продкі ўручную, з рыдлеўкамі і тапарамі. З дапамогай матыкі конскіх плугоў яны акультурвалі палі. Справу, пачатую старэйшымі пакаленнямі, працягваюць зараз мясцовыя хлебаробы. Вельмі пакрыўдзілі іх, адабраўшы самае дарагое – зямлю.

Супраць гэтых папрокаў цяжка было падабраць нейкі аргумент. І вось В. Л. Грышанаў у прыцІхшай зале заявіў:

— Аддзелу зямельных рэсурсаў і землеўпарадкавання, старшыні калгаса было дадзена заданне вырашыць пытанне аб забеспячэнні прыватнай жывёлы кармамі. Яны не разабраліся дагэтуль. Цяпер трэба выдаць гатовае сена людзям, згодна з заключанымі дагаворамі.

Варта дадаць, што падыход да вырашэння гэтай няпробнай праблемы ажыццяўляўся і раней. Давалася даручэнне перадаць пэўную плошчу зямлі сельскаму Савету і надзяліць ёю жадаючых. Пытанне "павісла" ў паветры.

Цяпер прысутныя ў зале чакалі, якія захады зробіць праўленне калгаса.

— Выдадзім сена з другога ўкосу траў, — запэўніў кіраўнік гаспадаркі. — Падкормім іх мінеральнымі ўгнаеннямі.

Адказ быў залічаны як палавінчатае рашэнне. І вось яго істотна дапоўніў загадчык аддзела райвыканкама: 45 гектараў зямлі калгаса "Краншатт" будзе перададзена калгасу "Ленінскі шлях". Трэба толькі, каб праўленне афіцыйна ўступіла ў хадайніцтва перад райвыканкамам аб прыняцці такога рашэння.

Гэта паведамленне задаволіла ўсіх удзельнікаў сходу. І. У. Куцаеў абяцаў правесці інвентарызацыю ўчасткаў зямлі, выдадзеных раней вяскоўцам па іх просьбах, навесці ў землеўпарадкаванні належны парадак.

На сходзе абмяркоўваліся розныя іншыя пытанні. Яго ўдзельнікі скардзіліся, што пачасціліся крадзяжы маёмасці, не ідзе добраўпарадкаванне дарог, вуліц вёсак. Нерэгулярна выдаецца заробак. Дапамогі ж няма...

І ўсё ж пасляслоўе аптымістычнае. Безумоўна, скаргі, сваркі – рэчы прыкрыя. Але ж прыемна, што людзі "б'юцца" за зямлю. Хлебаробы, значыць, застаюцца самімі сабой. І яшчэ. Замест скарачэння сельгасугоддзяў калгас збіраецца іх пашырыць, бо чуе прылію новых сіл. Гэта добры знак.

Мікалай ДЗЯТЛАЎ.

# УТЮГ СТАЛ ПРИЧИНОЙ ПОЖАРА

В начале этого месяца на пункт связи пожарной аварийно-спасательной части города поступило сообщение, что горит жилой дом гражданки Н. М. Овсянниковой в д. Забычанье. Через несколько минут пожарные автомобили прибыли к месту пожара и приступили к тушению. В следствии жаркой сухой погоды огонь распространялся с большой скоростью, через несколько минут пламенем было охвачено всё здание. К сожалению, дом спасти не удалось. Причиной пожара послужил оставленный без присмотра утюг.

Если б хозяйка соблюдала простые меры предосторожности и правила пожарной безопасности при эксплуатации электрических нагревательных приборов, этого бы не случилось. А правила эти очень просты: нагревательные приборы можно устанавливать только на подставке из негорючих материалов достаточной толщины. Запрещается оставлять включенные приборы без присмотра. Нельзя также изготавливать самодельные нагревательные приборы, особенно большой мощности, на которую не рассчитана электросеть квартиры. Запрещается также включать в одну розетку несколько электроприборов. Опасно заменять перегоревшие предохранители в телевизорах, в приемниках и других приборах самодельными.

Соблюдение этих простых правил в повседневной жизни поможет уберечь ваше жилье и имущество от пожара.

Анатолий МИНЧЕНКО, курсант ГВК ИУ.



На снимке: такую противопожарную технику используют в своей работе пожарные.
Фото Людмилы СМОЛЯКОВОЙ.

## ВАЖНО ЗНАТЬ

# "АТОМНЫЙ РЕАКТОР" НА ВАШЕМ СТОЛЕ

Основное количество радионуклидов, выпавших на леса, находится в верхнем (3-5 см) слое лесной подстилки. Высокое их содержание отмечается в коре деревьев, валежнике, мхе, а также в грибах и ягодах. Сбор грибов, ягод, лекарственного сырья в лесах разрешается при плотности загрязнения цезия-137 до 2 кюри кв. км. Оперативно проведенные исследования проб ягод, собранных в июле с.г. в лесах района, показывают, что загрязнение радионуклидами ягод в несколько раз превышает республиканские допустимые уровни (РДУ-99). В июле 2000 г. прошло радиометрический контроль 8 проб лесных ягод, из них в 55,5 процентах содержание радионуклидов превышает РДУ-99.

Характерно и то, что загрязнение черники, голубики может регистрироваться на всей территории района. Наверное, многие забыли о том, что период полураспада цезия-137 равен 30 годам, т.е содержание радиоцезия за 30 лет в продуктах питания может уменьшаться только наполовину. Если норма на дикорастущие ягоды по РДУ-99 составляет 185 беккерелей на кг., то максимальная величина в районе составила 1377 бк/кг. Ещё сложнее проблема сбора грибов в лесах района. Отдельные виды грибов: волнушки, грузди, моховики, маслята на всей территории района аккумулируют накапливание радионуклидов независимо от плотности загрязнения почвы радиоцезием.

Поэтому проверка грибов на радионуклиды на всей территории района обязательна.

В июле с.г. райЦГЭ проверено 13 проб грибов, собранных в лесах района, из них в 52 процентах содержание радионуклидов превышало РДУ-99. При норме 370 беккерелей на килограмм грибов максимальная величина составила 7199 бк/кг.

Практически единицы граждан обращаются для проверки даров леса на радионуклиды в райЦГЭ за последние годы, хотя радиоцепная обстановка в районе не улучшилась. Об этом свидетельствуют данные выборочных измерений доз внутреннего облучения у жителей района.

В 1999 г. обследован на СИЧе райполиклиники 1301 человек, из них выявлено с превышением установленных допустимых уровней радиоцезия у 30 человек, в том числе жителей г. Костюковичи – 12, Б. Дуброва – 10, Новосамотевичи – 2 и т.д.

В последнее время из-за мутаций, происходящих в клетках грибов, участились случаи отравления съедобными грибами.

В 1999 г. в районе зарегистрировано 18 случаев отравления грибами, из них 2 – с летальным исходом.

Не менее сложная обстановка и в текущем году, уже зарегистрировано 3 случая отравления грибами. Поэтому употребление грибов в пищу должно быть обосновано рекомендациями специалистов.

**Анатолий КАШУРО,**
**врач-радиолог районного центра гигиены и эпидемиологии.**



## *Поздравляем!*

*Горячо и сердечно поздравляем* ***коллектив работников торгового предприятия "Цементтора"*** *с Днем работников торговли!*
*Желаем всем большого счастья, крепкого здоровья, успехов и благополучия.*

***Администрация.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с 45-летием со дня рождения*
***РОМАНЕНКО***
***Веру Ивановну***
*(д. Пушково)*

*Пусть будет жизнь твоя прекрасной,*
*В семье погода – только ясной,*
*Пусть льются нежных слов потоки,*
*Пусть радость в доме бьёт ключом.*
*Не режут слух слова-упреки,*
*И беды будут нипочем.*

***Семья РЫБАЛКО.***

Х Х Х

*От души поздравляем с днем рождения*
***КОНОВАЛОВУ***
***Аллу Александровну***

*Будь самой веселой, будь самой счастливой,*
*Хорошей и нежной, и самой красивой,*
*Простой, обаятельной, неповторимой,*
*И доброй, и строгой, и слабой, и сильной.*
*Пусть беды уходят с дороги твоей,*
*Пусть будет побольше хороших друзей.*
*Пусть будет всё, что ты хочешь сама,*
*Любви тебе, веры, надежды, добра.*

***ДРУЗЬЯ.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с 65-летием со дня рождения дорогую, любимую мамочку, бабушку*
***СИЛКИНУ***
***Нину Кузьминичну***

*Милая, родная, как тебя мы любим,*
*Руки твои нежные, добрые глаза.*
*С нежностью сегодня мы целуем,*
*Всю любовь словами выразить нельзя.*
*Мы ведь понимаем, всякое бывает,*
*Ссоры и обиды, разные слова,*
*Но любовь ведь это все же побеждает*
*И, конечно, мамочка, ты всегда права.*
*Время нашей жизни календарь листает –*
*Снова за закатом следует рассвет,*
*Пусть же этот праздник вновь тебе прибавит*
*Много добрых, милых и счастливых лет.*

***Дочки, сыновья, зятья, невестки, внуки.***



**На зыходзе ліпень, які ў народзе вобразна называюць "макушкай лета". На фотаздымках пазаштатнага карэспандэнта райгазеты Дзмітрыя Пячкоўскага – два эцюды гэтай пары. У селяніна, вядома ж, свой клопат – нарыхтоўка корму жывёле. Старанна ён укладвае скошанае на лясной палянцы сена. "Лета, да ўсяго, час адпачынку, — лічаць маладыя людзі. — Паветра, сонца і вада – спадарожнікі здароўя, зараду бадзёрасці і вясёлага настрою на ўвесь год".**



## НАМ ПІШУЦЬ

### *Наша выратавальніца*

Менавіта так хочацца сказаць пра сацыяльнага работніка Н. І. Зосімаву. Яна жыве ў горадзе, а абслугоўвае састарэлых у вёсцы Чырвоная Слабада. Гэта добрая, прыгожая, ласкавая жанчына ва ўсім дапамагае мне: прыносіць з горада прадукты харчавання, лякарствы з аптэкі. Вясной яна дапамагла пасеяць агарод, пасадзіць градкі, а потым іх прапалоць. Робіць нават тое, што не ўваходзіць у яе абавязкі. За клопат, цеплыню, увагу, дапамогу я шчыра ўдзячна Н. І. Зосімавай. Жадаю ёй добрага здароўя, поспехаў, шчасця.

**Надзея ЗАХАРЭНКА,**
**жыхарка вёскі Чырвоная Слабада.**



# *"ДОСТАТОЧНО ИМЕТЬ СЕМЕНА ПРАВДЫ"...*

## (ШУТЛИВЫЕ ОБЪЯВЛЕНИЯ)

* *"Приглашаем отмывать тех, у кого грязные деньги. Зуботычина обеспечена. Услуги бесплатные".*

* *"Массажируем кулаки держимордам. Процесс безболезненный – под наркозом. Функции махания кулаками восстанавливаются в течении года".*

* *"Всем графоманам! Если вы ежедневно пишите свои опусы, то просьба сдавать их в макулатуру. Стоимость при продаже таких творений: доллар за килограмм бумаги, не считая чернил".*

* *"Лечим людей, которые рвутся к власти. Условие одно: если после лечения на протяжении года они не улучшат работу на доверенных участках – головы на плаху".*

* *"Приглашаются демагоги, сплетницы, которые бы хорошо чистили языком дымоходы. Оплата по конечному результату (очень высокая, в валюте). Учитывается качество каждого вылизанного языком миллиметра площади. Работает авторитетная комиссия в составе: трубочист с большим стажем, домовой, опытный болтун. Просьба к рвачам, мошенникам не спешить к посещению нашей фирмы – сразу же они будут вымазаны сажей и с позором выставлены за двери. Это не касается профессионалов".*

* *"Срочно ищем гражданина, который не обожает денег, женщин, карьеру, водку, колбасу, средств массовой информации, воздуха и т.д. Оплата договорная, сногсшибательная. Которую и во сне не видели".*

* *"Очень нуждаемся в Остапах Бендерах. Приходите, миленькие, в неограниченном количестве. Деньги, которые вы добудете нечестным трудом, пойдут на улучшение вашего питания во время отсидки на нарах".*

* *"Знаем, как лечить тех, у кого не сеянное вырастает. С собой не надо приносить деньги, достаточно иметь при себе семена правды".*

* *"Если у кого нет горя, то продаю по дешевке. Фунт лиха стоит всего один доллар. Обращаться в любое время суток".*

* *"Могу помочь простоковатым. Посоветовать, как найти приключения на свое существо".*

* *"Даем консультации всем желающим, как потерять деньги. Берем недорого: за слово два доллара".*

* *"Просьба ко всем богатым регулярно приносить десятую часть своих доходов в 0-0 часов на южную окраину нашего города. Там вас будут ожидать бедные люди. За это Бог вам поможет сколотить еще большее состояние".*

* *"Дорогой Ваня! Приходи на свидание в лесопарк. Я так соскучилась по тебе, что иссохлась на нитку, которая в катушке, что в большом клубке, в запутанном и перепутанном в тесьме, которая висит на моей шее, т.е. петле. Извини, что пишу так витиевато. Жду не дождусь тебя твоя горячо любимая, как цветок незабудка, Таня".*

* *Знаем, как излечить от лени и богатства. Приходите в коллективное хозяйство. С собой иметь пилу, лопату, вилы, молоток и гвозди. Лечение бесплатное".*

* *"Кто потерял вчерашний день, не печальтесь: таких дней еще много будет в вашей жизни".*

* *"Пропил пять тысяч рублей. Жена не пускает в дом. Срочно ищу спонсора, или по моим понятиям, порядочного, состоятельного человека, который бы безвозмездно профинансировал мою невосполнимую утрату. До конца дней своих буду молиться за него".*

* *"Любители выпить на халяву! Ваши дела улажены. В реку, что протекает возле нашего города, спиртзавод ежедневно спускает около тонны своей грудной продукции. Разбавлять не надо. Чтобы не быть пьяным, с собой приносите закуску".*

***Выписки из шутливых объявлений сделал Геннадий САВИН.***



**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт і калектыў ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" выказваюць глыбокае спачуванне ПУЗАНКОВАЙ Людміле Аркадзьеўне і ПЫЛ Ірыне Станіславаўне з выпадку смерці БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**


**Нам. галоўнага рэдактара Віктар БОНДАРАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

*ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя –2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1528 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 28. 07. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 58*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**